**Гродна**
№14 (543),
12 ліпеня 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Дар для нашага Касцёла



27 ЧЭРВЕНЯ Ў ГРОДЗЕНСКАЙ КАТЭДРАЛЬНАЙ БАЗІЛІЦЫ СВ. ФРАНЦІШКА КСАВЕРЫЯ БІСКУП ГРОДЗЕНСКІ АЛЯКСАНДР КАШКЕВІЧ УДЗЯЛІЎ ПРЭЗБІТЭРСКАЕ ПАСВЯЧЭННЕ ЧАТЫРОМ ДЫЯКАНАМ, ТРОЕ З ЯКІХ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ВЫПУСКНІКАМІ ВЫШЭЙШАЙ ДУХОЎНАЙ СЕМІНАРЫІ Ў ГРОДНЕ, А АДЗІН – ВЫПУСКНІКОМ ВЫШЭЙШАЙ ДУХОЎНАЙ СЕМІНАРЫІ РЭДЭМПТАРЫСТАЎ У ТУХАВЕ (ПОЛЬШЧА).

● *працяг на с. 4*

# Маці Божая, сустракай!

СЁЛЕТНІЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ Ў ТРАКЕЛЯХ АДБЫВАЛІСЯ Ў НЕЗВЫЧАЙНЫХ АБСТАВІНАХ: НЕ БЫЛО ЧУВАЦЬ РАДАСНАГА СПЕВУ І МАЛІТВЫ СУПОЛЬНАГА ШЭСЦЯ ПАЛОМНІКАЎ. АДНАК, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СКЛАДАНАСЦІ, ВЫКЛІКАНЫЯ ПАНДЭМІЯЙ, НЕКАТОРЫЯ ПІЛІГРЫМЫ ПРЫБЫЛІ НА ШТОГАДОВЫ ФЭСТ У ІНДЫВІДУАЛЬНЫМ ПАРАДКУ. ДЗЯКУЮЧЫ ІХ РАШУЧАСЦІ І АДВАЗЕ САНКТУАРЫЙ АЖЫЎ. ВЕРНІКІ ПРАСЯКНУЛІСЯ НАДЗЕЯЙ, ШТО ХУТКА ЎСЁ ВЕРНЕЦЦА НА СВАЕ МЕСЦЫ.

● *працяг на с. 8*



*Кожны з пілігрымаў вырушыў у дарогу з уласнымі інтэнцыямі. Пілігрымка была для іх нагодай для рахунку сумлення і абдумвання таго, што цешыць і непакоіць*

**“Божы народ хоча бачыць у святарах духоўных настаўнікаў”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мц 13, 1–9**

У той дзень Езус выйшаў з дому і сеў каля мора. І сабралася каля Яго мноства народу, так што Ён увайшоў у човен і сеў, а ўвесь народ стаяў на беразе. І шмат гаварыў ім у прыпавесцях, кажучы: "Вось выйшаў сейбіт сеяць. І калі ён сеяў, адны зярняты ўпалі пры дарозе, і наляцелі птушкі, і паклявалі іх. Другія ўпалі на камяністае месца, дзе не было шмат глебы, і адразу прараслі, бо зямля была неглыбокай. Калі ж узышло сонца, яны завялі і з-за таго, што не мелі каранёў, засохлі. Іншыя зярняты ўпалі ў церні, і выраслі церні, і заглушылі іх. А яшчэ іншыя ўпалі на добрую зямлю і прынеслі плён: адно ў сто разоў, другое ў шэсцьдзясят, а іншае ў трыццаць. Хто мае вушы, няхай слухае!".

### БЫЦЬ ДОБРАЙ ЗЯМЛЁЙ

Пан Езус, прамаўляючы перад сваімі слухачамі, звяртаўся да знаёмых ім вобразаў. Што можа быць больш ясным для людзей, у якіх земляробства з'яўлялася чымсьці звычайным, як лустачка хлеба, чым апавяданне пра сяўбу і жніво? Нягледзячы на гэта, яны не заўсёды маглі зразумець вучэнне Збаўцы.

Прыпавесць, расказаная Езусам тагачасным жыхарам, патрабавала тлумачэння. Нам яно таксама неабходна. Каб стаць добрай зямлёй, недастаткова чуць, трэба выслухаць адрасаваныя словы і перавесці іх у дзеянне. Мы часта шукаем адказы на тое, якім тыпам глебы з'яўляемся: дарогай, камяністым месцам, ці, можа, зямлёй, з якой трэба выпалаць шмат пустазелля? Хоць такое пытанне не беспадстаўнае, ствараецца ўражанне, што кожны з нас можа атаясамліваць сябе з любым з пералічаных пунктаў. Цяжэй за ўсё знайсці ў сабе ўрадлівую зямлю, таму што не заўсёды можам заставацца вернымі не толькі Езусу, але і сваім словам. І хоць сёння мы верныя, павінны быць асцярожнымі, каб гэтую вернасць захаваць і заўтра. "Таму, калі некаму здаецца, што ён стаіць, няхай глядзіць, каб не ўпасці" (1 Кар 10, 12), – настаўляе св. Павел.

Быць добрай зямлёй значыць быць святым. А да святасці нас можа прывесці толькі сам Бог, уласнымі сіламі не здолеем асвяціцца. Просьма Пана аб ласцы святасці для сябе і сваіх блізкіх.

**Ці здольны я захаваць вернасць Богу?**

**Як выглядае маё жыццё і з чым яго можна параўнаць?**

### XVI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мц 13, 24–30**

Езус прапанаваў людзям іншую прыпавесць, кажучы: "Валадарства Нябеснае падобнае да чалавека, які пасеяў добрае насенне на полі сваім. Калі ж людзі спалі, прыйшоў вораг яго і пасеяў між пшаніцаю каласоўнік, і пайшоў. Калі ж збажына ўзышла і дала плод, тады паказаўся каласоўнік. Прыйшоўшы ж, слугі гаспадара дому сказалі яму: «Пане, ці ж не добрае насенне пасеяў ты на полі сваім? Адкуль жа на ім каласоўнік?». Ён жа сказаў ім: «Вораг зрабіў гэта». А слугі сказалі яму: «Хочаш, мы пойдзем выпалаць яго?». Але ён сказаў: «Не, каб, выбіраючы каласоўнік, вы не павырывалі разам з ім і пшаніцу. Пакіньце расці разам тое і другое да жніва; і ў час жніва я скажу жнецам: збярыце спачатку каласоўнік і звяжыце яго ў пучкі, каб спаліць; а пшаніцу збярыце ў гумно маё»".

### СУПРАЦЬСТАЯЦЬ ЗЛУ

У прыпавесці Хрыстос тлумачыць, што Божае Валадарства ўжо настала. Яно пастаянна развіваецца і выспявае. Акурат сёння жывём у перыяд узрастання Божага Валадарства – у час Касцёла.

Аднак неабходна памятаць аб папярэджанні Пана Езуса аб тым, што ў свеце ўсё яшчэ працягваецца д'ябальская сяўба пустазелля – зла. Яна адбываецца, калі сумленне чалавека засынае. Таму Езус заклікае нас быць пільнымі і абачлівымі. Не можам дазволіць пранікнуць у свае сэрцы насенню зла, якое заглушыць залатую пшаніцу – плён святога жыцця. Трэба зрабіць усё, каб да нас адносіліся словы Хрыста: "Праведнікі заззяюць, як сонца, у Валадарстве іх Айца" (Мц 13, 43). Атрымаем гэтую радасць, калі будзем будаваць сваё жыццё на падмурку Божых праўд і запаведзей.

Мудры і разважлівы гаспадар з прыпавесці не дазваляе слугам вырваць пустазелле, каб не пашкодзіць пшаніцу. Ён сімвалізуе паставу Бога: міласэрнага, які чакае навяртання чалавека. Як клапатлівы бацька з поўным надзеі сэрцам, не асуджае, а чакае нашага вяртання. Бог ёсць Любоў – піша св. Ян; і гэтая праўда пра Усемагутнага павінна заставацца для нас самай важнай.

**Ці дазваляюць мае паставы і ўчынкі спакойна чакаць моманту Апошняга Суда?**

**Ці стараюся супрацоўнічаць з ласкай самога Бога?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Свет патрабуе святароў

***Падабаецца нам гэта ці не, свет увесь час змяняецца. Ён выглядае зусім інакш, чым 20, 40, 50 гадоў таму. На нашых вачах змяняюцца пакаленні людзей. Прыходзіць новае, маладое, а старэйшае адыходзіць па ўзнагароду да Бога.***

Гродзенская дыяцэзія за апошнія паўгода страціла чатырох руплівых святароў. Іх змянілі новыя святары, якія нядаўна ў катэдральнай базіліцы прынялі прэзбітэрскія пасвячэнні. Выбар пераемнікаў абумоўлены ўпэўненасцю, што на зямлі няма высакароднейшага занятку, чым святарская паслуга. Яны, відаць, усведамляюць, што ніхто не можа даць чалавеку большай любові, чым святар, які ўдзяляе Хрыста, прапаведуе Яго словы, ведучы да Бога.

Гэта вельмі важна, каб сучасны свет бачыў асоб, якія інакш думаюць і жывуць інакш, чым усе астатнія, асоб, якія маюць Хрыстовы пункт гледжання. Іх прысутнасць сярод люду змяняе свет і сэрца чалавека. Святары патрэбны для нашага збаўлення, бо праз іх можам культываваць сваю веру, расці ў ёй і падтрымліваць сувязь з Панам Езусам.

Добры пастыр, добры святар мусіць памятаць, што ўсе без выключэння хрысціяне павінны быць сведкамі Хрыста. Ксяндзу, з-за яго функцый і пасвячэння, неабходна быць прафесіяналам, спецыялістам у тым, што робіць. Ён не можа ні на секунду забывацца, што з'яўляецца слугою Езуса, а значыць і слугой кожнага чалавека.

Сёння, у гэтыя цяжкія для веры часы, святары і свецкія людзі маюць патрэбу адзін у адным. Варта разлічваць адзін на аднаго, умацоўвацца малітвай, памятаючы, што "жніво сапраўды вялікае, ды работнікаў мала" (Лк 10, 2).

**Дарагія Чытачы!**

**Свету патрэбны святыя і добрыя святары! Таму будзем маліцца за шматлікія пакліканні ў Касцёле. Будзем маліцца за новых святароў, каб яны вучыліся ад старэйшых ксяндзоў, як мудра ісці па жыцці і быць для іншых "соллю зямлі і святлом свету".**




# Ян Павел II
## і апостальскія падарожжы

*"Усюды, дзе магу, наведваю [...] Касцёл."*

Папа-пілігрым – так называлі пры жыцці св. Яна Паўла II. Шматлікія апостальскія візіты былі адметнай рысай пантыфікату Святога Айца. Агулам ён наведаў каля 130 краін і 900 мясцовасцей. Такую колькасць папскіх выездаў за межы Ватыкана можна назваць патрабаваннем часу XX стагоддзя, якое адчуў ужо папа Ян XXIII, працягнуў папа Павел VI і на якое напоўніцу адказаў папа Ян Павел II.

Пантыфік з вялікай пашанай адносіўся да кожнага куточка свету, які наведваў. Цалаваў зямлю таго месца, у якое прыбываў. Гэта быў жэст вялікай павагі і любові да людзей і да гісторыі краіны. Такога звычаю папа Ян Павел II прытрымліваўся здаўна. У кнізе "Дар і таямніца" ён узгадваў: "Памятаю, што ў пэўны момант, калі пераходзіў мяжу парафіі ў Неговіці, я ўкленчыў і пацалаваў зямлю. Навучыўся гэтаму жэсту, здаецца, ад св. Яна Марыі Віянэя".

Аднак пілігрымкі Святога Айца не насілі выключна сентыментальны ці фармальны характар. Рыхтуючыся да паездак, Пантыфік запрашаў да сябе прадстаўнікоў краін, куды накіроўваўся, і ўважліва іх слухаў. Хацеў як мага больш даведацца пра месца, якое планаваў наведаць, і пра сітуацыю Касцёла ў гэтай краіне.

Падчас падарожжаў папа Ян Павел II сустракаўся з прадстаўнікамі мясцовых улад, у тым ліку найвышэйшага ўзроўню. У сваіх прамовах закранаў вострыя пытанні, гаворачы, між іншым, пра свабоду рэлігійнага веравызнання.



Святы Айцец адважна наведваў краіны з напружанай палітычнай сітуацыяй, каб падзяліцца з іх жыхарамі надзеяй, выказаць сваю салідарнасць і паспрыяць дыялогу паміж дзяржавай і Касцёлам. Так было падчас першай пілігрымкі папы Яна Паўла II у Мексіку, дзе панавала забарона публічнага нашэння сутаны, у камуністычную Кубу і Польшчу. Спатыкаючыся з палітыкамі гэтых дзяржаў, папа Ян Павел II заўсёды даваў прыклад адкрытасці на кожнага чалавека, асабліва іншадумца.

Адметнай рысай пілігрымак Пантыфіка былі таксама сустрэчы з прадстаўнікамі нехрысціянскіх рэлігій і пошук шляхоў да дыялогу, да будавання еднасці. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывалі і такія публічныя жэсты, як наведванне святынь двух сусветных рэлігій – юдаізму і мусульманства. За ўсю гісторыю папства Ян Павел II першым (пасля св. Пятра) пераступіў парог сінагогі ў Рыме.

Падчас Юбілейнай пілігрымкі ў 2000 годзе маліўся перад Сцяной Плачу ў Іерусаліме. Год пасля афіцыйна наведаў адну з найважнейшых мячэцяў у Дамаску. Не агалошваючы ў медыях, у 1979 годзе падчас візіту ў Турцыю быў у Блакітнай мячэці ў Стамбуле.

Між іншым, Святы Айцец сустракаўся са звычайнымі людзьмі, з моладдзю, з хворымі і з асобамі з абмежаванымі магчымасцямі. Візіты Папы ў краіну заўсёды збіралі вялікую колькасць людзей (не толькі католікаў). Яго сардэчнасць, шчырасць і ўвага была скіравана да кожнага чалавека, нягледзячы на стан і пасаду. Гэта прыцягвала.

Св. Ян Павел II вельмі любіў выязджаць за межы Ватыкана з жаданнем несці Добрую Навіну ў самыя аддаленыя куткі свету. Ён бачыў у гэтым сваю важную місію. Кардынал Станіслаў Дзівіш, шматгадовы сакратар Пантыфіка, падзяліўся думкай Святога Айца аб тым, што абавязкам кожнага Папы з'яўляецца працяг місіі св. Паўла, "вялікага падарожніка".

*"Я стаў такім вандроўным пастырам, вандроўным Папам, і так прагну служыць Паўсюднаму Касцёлу і Касцёлу ў розных краінах свету, сярод розных народаў і нацый, так як магу сабе гэта дазволіць."*

*Кацярына Паўлоўская*

# Першапраходцы любові, або як зарадзіць культ мясцовых герояў

***“Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх” (Ян 15, 13). Гэтыя словы і палохаюць, і захапляюць адначасова. Палохаюць тым, што, зірнуўшы ў глыбіню нашых сэрцаў, разумеем: магчыма, ніколі не зможам наблізіцца да ідэальнай любові. Аднак захапляюць праўдай, што сярод нас знайшліся здольныя на ахвяру.***

***Няма патрэбы сягаць далёка – ні ў заморскія краіны, ні ў часы сярэднявечча, каб знайсці тых, хто да самага канца паследаваў запавету Хрыстовай любові. Адна з такіх гераічных постацей жыла побач з намі ў мінулым стагоддзі. Бл. Мар’яна Бярнацкая была сярод жыхароў Гродна і Ліпска, расстраляных падчас II Сусветнай вайны. Аддала жыццё за цяжарную нявестку, выпрасіўшы нямецкага салдата забраць сябе замест яе.***


*“Нараджэнне” новага члена парафіяльнай супольнасці*

## КАЛЫСКА ЗАМІЛАВАННЯ

Год таму біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч благаславіў новую супольнасць вернікаў, якую даверыў заступніцтву зямлячкі, заслужанай перад Панам. Тэрыторыя парафіі ахоплівае 2 гарадскія мікраёны Гродна – Ласосна і Баранавічы, а таксама вёску Тарусічы. Гэта дастаткова вялікія мікрараёны, якія ўвесь час разрастаюцца.

***“Калі ўжо было вядома, што па волі кс. б-па Аляксандра Кашкевіча я стану пробашчам новай парафіяльнай супольнасці, адразу прыйшла думка абраць заступніцай парафіі бл. Мар’яну Бярнацкую,*** – адзначае кс. Юрый Марціновіч. – ***Выбар абгрунтаваны тым, што наша парафія знаходзіцца блізка да таго месца, дзе ў ліпені 1943 года благаслаўлёная была расстраляна гітлераўцамі. Звычайная жанчына, якая нічым не вылучалася сярод іншых. Як і многія, непакоілася пра сваю сям’ю, была аддана Богу і Касцёлу… Таму я лічу, што тым больш павінна быць нам блізкая і дарагая.***


*Парафія пакуль невялікая, але актыўная*

***Прагнем углядацца ў яе постаць, праслаўляючы Пана Бога за святасць, аб’яўленую ў звычайных, простых людзях”.***

Усё больш жанчын, асабліва ўдоў, свекрывей і нявестак, звяртаюцца да бл. Мар’яны як да сваёй заступніцы і абаронцы. У благаслаўлёнай таксама просяць дапамогі перад Богам сужэнствы, якія прагнуць патомства. ***“Я заўважыў, што ўжо некалькі жанчын замовілі св. Імшу ў інтэнцыі сваіх нявестак,*** – распавядае кс. Юрый. – ***Таму вельмі хачу, каб новая святыня, якая, веру, нягледзячы ні на што, некалі паўстане ў горадзе над Нёманам, стала сапраўднай школай бл. Мар’яны, каб кожны мог зачарпнуць у ей духу пакоры і сціпласці. Гэта асабліва патрэбна сучаснаму чалавеку, які вельмі часта ўпадае ў гонар і гоніцца за тым, што толькі прывабна і модна”.***

Парафіянка Алена Амяльянчык дадае, што мае моцнае жаданне даследаваць жыццё бл. Мар’яны, каб бліжэй пазнаць яе асобу і раскрыць таямніцу любові. ***“У біяграфіі благаслаўлёнай мяне найбольш уражвае тое, што яна ахвяравала жыццё не за сына, таксама прыгаворанага да расстрэлу, а за нявестку. Зважаючы на звыклыя людскія адносіны, разумееш: сын для маці – заўсёды найвялікшы скарб. Аднак гэтая жанчына знайшла ў сабе сілы для складанага, але апраўданага выбару: аддала жыццё за цяжарную дзяўчыну, па сутнасці – чужую для яе”,*** – дзеліцца думкамі спадарыня Алена.

Пробашч парафіі спадзяецца, што постаць бл. Мар’яны Бярнацкай дазволіць вернікам па-іншаму паглядзець на свекрывей, а для іх саміх стане стымулам да пабудовы міру і згоды ў сям’і. Ён мае моцнае жаданне, каб святыня на ўзор благаслаўлёнай, якая сваёй малітвай выпрошвала ласкі для мужа, дзяцей, зяця, нявесткі і ўнукаў, стала асаблівым месцам малітвы за сем’і, асабліва за тыя, што перажываюць цяжкасці і чалавечыя драмы.


*Разам у малітве на першай адпустовай урачыстасці*

Новаўтвораная парафія – першая ў гісторыі Гродзенскай дыяцэзіі, а нават і свету, якая паўстала пад імем бл. Мар’яны Бярнацкай. Адгэтуль яе місія заключаецца ў тым, каб раскрываць прыгажосць асобы благаслаўлёнай і накіроўваць сілы на тое, каб наша краіна атрымала яшчэ адну святую.

## СПАЧАТКУ – ЖЫВЫ КАСЦЁЛ, ПАСЛЯ – СВЯТЫНЯ З ЦЭГЛЫ

Вернікі з парафіі бл. Мар’яны Бярнацкай пакуль не маюць уласнага месца для сустрэч на св. Імшы. Яны збіраюцца раз у тыдзень на нядзельнай Эўхарыстыі ў касцёле ў Адамавічах (дэканат Сапоцкін). Там жа праходзяць і вялікія ўрачыстасці.

Усе працэдуры, якія датычаць выдзялення зямельнага ўчастка, былі распачаты яшчэ ў студзені бягучага года. Аднак маюцца некаторыя перашкоды, якія пакуль не дазваляюць яго атрымаць. Разам з тым, парафіяне ўпэўнены, што існуючыя праблемы толькі даказваюць: дзе павінна быць Божая хвала, там і цяжкасці большыя. Яны спадзяюцца, што з дапамогай Пана і пры падтрымцы мясцовых улад здолеюць станоўча вырашыць гэтае пытанне.

***“Пакуль не маем уласнага зямельнага ўчастка, наша дзейнасць абмежавана. Хочацца як мага хутчэй мець хаця б часовую капліцу, дзе будзе канцэнтравацца жыццё парафіі. Людзі павінны мець пастаянны доступ да свайго душпастыра. Мне асабіста вельмі хочацца больш часу прысвячаць сваім парафіянам, распачаць працу з дзецьмі і моладдзю, стварыць малітоўныя групы”,*** – дзеліцца кс. Юрый.

Тым часам маленькімі крокамі будуецца супольнасць вернікаў, дзе людзі могуць падсілкоўваць адзін аднаго ў веры. ***“Нават сустрэчы раз у тыдзень сярод знаёмых аднадумцаў адцягаваюць ад «бытавухі» і накіроўваюць да «высокага»,*** – адзначае спадарыня Алена. – ***Мне таксама падабаецца, што ксёндз пробашч заўсёды імкнецца камунікаваць з намі. Стварыў суполку ў Viber, і там цяпер часта звіняць паведамленні: то віншаванні, то аб’явы. Прыемна адчуваць сувязь з душпастырам і яго зацікаўленасць… Мой сын міністрант. Часта яму даводзіцца прыслужваць аднаму. І пробашч заўсёды знойдзе словы падтрымкі. На Пасхальны Трыдуум пры алтары былі толькі кс. Юрый і мой Паўлік. Дык ксёндз яму сказаў пазней: «Ты першы раз быў адзін, і я першы раз быў адзін у такі важны час. Аднак удвох мы выдатна справіліся!». Гэта ўсё дробязі, але яны насамрэч будуюць адносіны”.***

Пробашч парафіі дадае: ***“Мне хацелася б, каб гэта была жывая супольнасць, дзе кожны будзе заўважаны і задзейнічаны. І гледзячы на сённяшніх сваіх парафіян, якія кожную нядзелю збіраюцца на Эўхарыстыю (а іх амаль 100 чалавек), бачу, што яны таксама гэтага прагнуць. Жадаюць мець душпастыра і ўласную святыню, дзе разам будзем расці ў веры і ўзаемнай любові, будаваць сапраўдную супольнасць і станавіцца сведкамі Хрыста ў свеце”.***

## ГІСТОРЫЯ ПАЧЫНАЕЦЦА З МАЛОГА

За нядоўгі час існавання парафіі там ужо ахрышчана 5 дзяцей. Неўзабаве адбудзецца яшчэ адна важная падзея – першы шлюб. Жыццё вернікаў пастуопова насычаецца і большымі па значэнні падзеямі.

***“Я лічу, што самай вялікай падзеяй для нашай маладой супольнасці стаў візіт дапаможнага біскупа дыяцэзіі Юзафа Станеўскага. У II Нядзелю Вялікага посту іерарх прысутнічаў на нашай нядзельнай Эўхарыстыі і ўзначаліў яе. У гэты дзень кс. бп Юзаф маліўся за маладую парафію, каб з Божай дапамогай мы дасягнулі пастаўленай мэты – пабудовы храма. Візіт генеральнага вікарыя дыяцэзіі дадаў нам неабходнай мужнасці і ўпэўненасці, што абралі правільны накірунак”,*** – узгадвае кс. Юрый.

Яшчэ адной вельмі важнай і сімвалічнай для парафіі падзеяй стала першая адпустовая ўрачыстасць у дзень літургічага ўспаміну бл. Мар’яны, які прыпадае на 12 чэрвеня. У гэты дзень адбылася св. Імша на месцы, дзе благаслаўлёная была расстраляна разам з жыхарамі Гродна і Ліпска. ***“Падчас гэтага свята адчулі сябе як адзіная сям’я. Магчыма, таму, што разам стараліся арганізаваць урачыстасць – кожны імкнуўся далучыцца, хаця б прынесці кветкі для аздаблення. Магчыма, таму, што асаблівым чынам адчувалі блізкасць бл. Мар’яны і яе няўяўны выраз клопату”,*** – дадае спадарыня Алена.

У навумавіцкім лесе на фартах, якія сталі маўклівым сведкам драматычных падзей 1943 года, парафіяне дзякавалі Богу за мужнасць і гераізм папярэдніх пакаленняў, якія ў абароне крыжа, веры і ўсяго Божага ды святога аддалі сваё жыццё. Прасілі таксама бл. Мар’яну аб дапамозе ва ўрэгуляванні ўсіх арганізацыйных момантаў з атрыманнем пляцоўкі пад будаўніцтва касцёла. ***“Гэта была цудоўная малітва, што сабрала членаў нашай парафіі, для якіх важна будучыня Касцёла,*** – зазначае кс. Юрый. – ***Я перакананы, што бл. Мар’яна з самага пачатку падтрымлівае нашу парафіяльную супольнасць. Кожны раз, калі ўзнікаюць праблемы, каб рабіць далейшыя крокі, я езджу на фарты, дзе была расстраляна наша заступніца. І тады кажу ў сэрцы: Мар’яна, калі хочаш, каб новая святыня была прысвечана табе, пастарайся атрымаць неабходны дазвол альбо нейкі чаканы дакумент. І сапраўды благаслаўлёная дапамагае! Тады, калі мы чакалі дзяржаўнай рэгістрацыі парафіі, я некалькі разоў ездзіў у Навумавічы. Прасіў Мар’яну аб падтрымцы. І яна не падвяла! Дзяржаўная рэгістрацыя парафіі была падпісана 1 лістапада, ва ўрачыстасць Усіх Святых! Я разумею гэта як доказ таго, што святыя і благаслаўлёныя сапраўды дапамагаюць нам, што яны побач”.***

*Ангеліна Марцішэўская*

---

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Мы часта ідзём да Бога толькі тады, калі патрабуем дапамогі. Але Усемагутны бачыць далей і запрашае нас ісці далей, шукаць не толькі Яго дары, але і Яго самога – Пана ўсіх дароў; даверыць Яму не толькі праблемы, але і жыццё. Такім чынам Ён зможа нарэшце даць нам самую вялікую ласку – аддаць сваё жыццё.*

*Так, самае галоўнае ў жыцці – зрабіць з яго дар. Гэта тычыцца ўсіх: бацькоў у адносінах да сваіх дзяцей і дзяцей у адносінах да пажылых бацькоў. Тут мне на думку прыходзіць сітуацыя многіх старэйшых людзей, пакінутых у адзіноце сваімі сем’ямі, быццам яны – прабачце, што так скажу, – адходы. Гэта драма сучаснасці: адзінота пажылых, бо жыццё дзяцей і ўнукаў не становіцца дарам для старэйшых. Зрабіць з жыцця дар для тых, хто жыве ў шлюбе, і тых, хто кансэкраваны; гэта актуальна ўсюды, як дома, так і на працы, і распаўсюджваецца на ўсіх вакол нас. Бог хоча, каб мы раслі ў дары: толькі такім чынам станем вялікімі.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай “Анёл Панскі” ў Ватыкане, 29.09.2020*

---

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Сёлетнія адпустовыя ўрачыстасці ў Тракелях мы перажываем у незвычайных абставінах, у цяжкіх умовах пандэміі, якая напаўняе смуткам і страхам сэрцы людзей ва ўсім свеце. Няма сёння тут тысяч пілігрымаў, якія штогод прыбываюць на сустрэчу з Маці Божай з розных куткоў нашай дыяцэзіі. Няма гасцей з іншых дыяцэзій і замежжа. Няма шматлікіх святароў, сясцёр, радаснай моладзі, якая спявае… У гэтым годзе наш санктуарый здаецца сумным і апусцелым. Аднак я прагну, каб кожнага з тут прысутных, а таксама ўсіх тых, хто яднаецца з намі духоўна, дасягнула сёння з гэтага святога месца пасланне надзеі. Таму на заканчэнне хацеў бы прывесці ўрывак з казання Святога Айца Францішка, якое ён прамовіў у мінулым годзе ў свята Адведзінаў: “Маці Божая ведае, што такое ўзыход, ведае нашы дарогі ўгору: Яна сястра нам у пілігрымаванні. Яна мае досвед у працы, ведае, як узяць нас за руку на калдобінах, калі знаходзімся перад найбольш стромкімі паваротамі жыцця. […] Марыя радуецца, бо нясе Эмануэля, Бога з намі”.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас адпустовай св. Імшы ў Тракелях, 02.07.2020*




◆ У Ватыкане абнародаваны “Дапаможнік па катэхезе”, падрыхтаваны Папскай радай па новай евангелізацыі. Ён складаецца з 3-ох частак і 12-ці раздзелаў. Асобны раздзел прысвечаны разважанню аб ролі лічбавай культуры. Між іншым, надаецца ўвага навуцы і тэхналогіям. Спецыяльнае месца ў даведніку адведзена пытанню біяэтыкі. Новы “Дапаможнік па катэхезе” стаў “спадчыннікам” “Агульнага катэхетычнага дапаможніка” 1971 года і “Агульнага дапаможніка па катэхезе” 1997 года.

◆ Бюро фінансавай інфармацыі падало справаздачу за 2019 год. У ёй утрымліваецца агляд дзейнасці структуры і статыстыка. З дакумента вынікае, што за мінулы год Бюро атрымала 64 паведамленні аб падазронай фінансавай актыўнасці. Большасць выпадкаў патэнцыяльных злачынстваў датычыла “замежных суб’ектаў” або дзейнасці, якая знаходзіцца ў юрысдыкцыі іншых краін ці звязана з імі. У ходзе аналізу ў ватыканскіх фінансавых структурах пацверджаны сярэдне-нізкі ўзровень рызыкі ў сферы адмывання грашовых сродкаў і нізкі ўзровень у сферы фінансавання тэрарызму.

◆ Біскупы ЗША выступілі супраць вяртання смяротнага пакарання. “Яно супярэчыць Евангеллю”, – гаворыцца ў спецыяльнай заяве, падпісанай мансеньёрам Полам Коклеем, арцыбіскупам Аклахомы і старшынёй Камітэта па пытаннях нацыянальнай справядлівасці і чалавечага развіцця пры Канферэнцыі Біскупаў ЗША. Іерарх заўважыў, што па ініцыятыве папы Францішка ў 2018 годзе ў Катэхізіс Каталіцкага Касцёла былі ўнесены змены, згодна з якімі смяротнае пакаранне прызнана недапушчальным. Паводле слоў арцыбіскупа, гэта “не значыць быць «мяккімі» ў адносінах да злачынцаў, але моцнымі ў пытаннях годнасці чалавечага жыцця”.

◆ Эквадор – чарговая краіна, у якую была накіравана папская дапамога для барацьбы з пандэміяй каранавіруса. Раней спецыялізаванае абсталяванне паступіла ў бальніцы італьянскага Лечэ, румынскага Сучава і іспанскага Мадрыда. Святы Айцец Францішак таксама ахвяраваў 10 апаратаў ШВЛ для Сірыі і 3 – для шпіталя св. Юзафа ў Іерусаліме. Дыягнастычнае абсталяванне накіравана ў бальніцы Газы і Бэтлеема.

◆ 3 адстаўныя лідары хрысціянскіх супольнасцей у Святой Зямлі звярнуліся з заклікам спыніць ізраільска-палестынскі канфлікт. З боку Каталіцкага Касцёла зварот падпісаў Патрыярх-эмерыт Мішэль Саба, ад імя Англіканскай Царквы – біскуп-эмерыт Рыя Абу-эль-Асаль, з боку Лютэранскай Царквы – біскуп-эмерыт Муніб Юнан. Іерархі заклікаюць да прымірэння, заснаванага на роўнай годнасці і аднолькавых правах усіх асоб і народаў. “Мір у Святой Зямлі магчымы ўжо шмат гадоў. Праблема заключаецца ў тым, што рашэнне ААН і ўсіх краін не выконваецца”, – адзначаюць аўтары экуменічнага звароту.

vaticannews.va

# Дар для нашага Касцёла

● працяг са с. 1

***Спецыяльна для “Слова Жыцця” новапрэзбітэры распавялі пра тое, якія дэвізы абралі для сваёй святарскай паслугі, якой бачаць асноўную місію святара і душпастыра, а таксама аб тым, ці маюць нейкія асабістыя пастановы.***





**Кс. Андрэй Струкель**
нарадзіўся 19 лістапада 1993 года. Паходзіць з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе.

Дэвізам сваёй святарскай паслугі я выбраў урывак з Кнігі прарока Ісаі: “Тады я пачуў голас Пана, які казаў: «Каго Мне паслаць? Хто пойдзе дзеля нас?». І сказаў я: «Вось я, пашлі мяне»” (Іс 6, 8). Гэтыя словы змясціў на прыміцыйным абразку.

На маю думку, адна з асноўных місій кожнага святара – служэнне Богу і людзям. І гэтае служэнне павінна выконвацца з любоўю. Кожны душпастыр мусіць імкнуцца да святасці, каб праз свой прыклад прывесці іншага чалавека да Бога. Важнай справай святара з’яўляецца абуджэнне асобы да прыняцця ласкі веры і, канешне, дапамога вернікам у духоўным развіцці.

Мая галоўная пастанова – быць добрым святаром і імкнуцца да святасці. Нястомна паглыбляць свае веды і пазнаваць Пана Бога, каб магчы перадаць Божае слова іншым людзям. Я буду старацца добра выконваць даручаныя мне заданні, якія ўзяў на сябе разам з прыняццем святарскіх пасвячэнняў.

Вельмі ўдзячны свайму пробашчу кс. каноніку Уладзіміру Гуляю і святарам, якія служаць у роднай парафіі, а таксама ўсім ксяндзам і манахіням, якіх Божы Провід паставіў на маім жыццёвым шляху. Сёстрам я асаблівым чынам дзякую за малітву, якой мяне нястомна адорваюць. Удзячны таксама тым людзям, якія за мяне маліліся і моляцца.





**Кс. Томаш Мікалайчык**
нарадзіўся 1 красавіка 1996 года. Паходзіць з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе.

“Сыне, калі збіраешся служыць Пану, падрыхтуй сваю душу да выпрабавання. Зрабі шчырым сэрца сваё і будзь трывалы, не губляй раўнавагі ў час нядолі” (Сір 2, 1–2). Калісьці на Біблійным коле ў семінарыі адзін клерык прапанаваў для разважання гэтыя словы ў аспекце святарства. І ў мяне яны заселі глыбока ў душы, таму змясціў іх на прыміцыйным абразку.

Я лічу, што душпастыр павінен клапаціцца пра вернікаў. Служачы Богу і бліжняму, ён павінен праяўляць любоў, гуманнасць, неабыякавасць. Думаю, кожны святар, рукі якога ў дзень пасвячэння былі памазаны алеем, павінен быць побач з чалавекам. Да гэтай блізкасці асаблівым чынам заахвочвае Святы Айцец Францішак, які падкрэслівае, што ксёндз не мусіць быць “суперменам” і не можа “фліртаваць” з сусветным жыццём: “пастыр павінен пахнуць авечкамі, а не дарагой парфумай”. Да самых важных абавязкаў святара належыць “несці Добрую Навіну ўбогім, абвяшчаць вызваленне палонным, а сляпым вяртаць зрок; выпусціць спакутаваных на свабоду і абвяшчаць год ласкі Пана”. Акрамя таго, трэба “лячыць раны зламаных сэрцаў і суцяшаць засмучаных”.

Што датычыць пастанову, я хацеў бы як мага даўжэй затрымаць тыя адчуванні, якія перажываю цяпер. Прыступіць да алтара Пана – вялікая радасць. Гэтай радасцю хачу дзяліцца, жыць у ёй і аб ёй сведчыць.

Я вельмі ўдзячны свайму пробашчу, кс. каноніку Уладзіміру Гуляю. Для мяне ён з’яўляецца добрым прыкладам святара і моцнай падтрымкай на гэтай дарозе. Глыбока ў сэрцы захаваны таксама прыклад жыцця, веры і святарства светлай памяці кс. прафесара Тадэвуша Вышынскага, якога мне пашчасціла сустрэць падчас семінарыйнай фармацыі.

Удзячны сваім родным, маме, бабулі. Выдзяліць хацеў бы і свайго роднага брата Эрнэста, які трошкі апярэдзіў мяне на шляху да святарства. Аднак нашыя жыццёвыя сцежкі вельмі блізкія і пераплецены. Ад усяго сэрца дзякую ўсім тым, хто за мяне моліцца.



**Кс. Яўген Амасёнак**
нарадзіўся 8 сакавіка 1987 года. Паходзіць з парафіі св. апостала Андрэя ў Слоніме.

“Няхай мне не давядзецца хваліцца нічым, акрамя крыжа нашага Пана Езуса Хрыста, праз якога свет укрыжаваны для мяне, а я – для свету” (Гал 6, 14). Менавіта гэтыя словы св. Паўла знайшлі водгук у маім сэрцы перад тым, як канчаткова вырашыў выбраць дарогу святарскага служэння і ўпершыню пераступіў парог духоўнай семінарыі. Мяркую, што яны, у большасці выпадкаў, нейкім таямнічым чынам суправаджаюць мяне і нанова адкрываюць тоеснасць святара, яго пакліканне і місію ў свеце.

З аднаго боку, я адчуваю, наколькі не дарастаю да ажыццяўлення гэтых слоў у штодзённым жыцці, а з другога – заўважаю, як яны дапамагаюць не згубіць першапачатковы запал наследавання Хрыста. Адной з асноўных місій святара, на маю думку, з’яўляецца жаданне яднаць Божае Сэрца з сэрцам чалавека. А гэта магчыма толькі тады, калі святар дазваляе Усемагутнаму дзейнічаць праз яго: настаўляючы, прабачаючы, суцяшаючы, ахвяруючы сабой і нанова ўсталёўваючы сувязі любові паміж Богам і чалавекам.

Напэўна, кожны, хто прымае святарскія пасвячэнні, у пачатку свайго шляху ставіць перад сабой пэўныя задачы, якім хоча быць верным. Лічу, што прыярытэтам павінна стаць малітва і асабістая лучнасць з Богам, бо толькі дзякуючы гэтаму святар здольны дзяліцца сваім пакліканнем з іншымі. А таксама вернасць абяцанням і абавязкам, якія вынікаюць з існасці святарскага пасвячэння. І, канечне ж, усведамленне таго, наколькі вялікі і бясцэнны дар незаслужана атрымаў, каб заўсёды быць удзячным за давер, аказаны Богам.

Цяжка ўзгадаць усіх людзей, якім я асаблівым чынам удзячны за падтрымку і прыклад на дарозе да святарства, бо кожны з іх нейк паўплываў на маё духоўнае станаўленне. Аднак, у першую чаргу, адразу ўзгадваю бацькоў. Дзякуючы наследаванню ўзору іх жыцця, у мяне паступова фарміравалася пэўнае бачанне гэтага свету, тых вечных каштоўнасцей, якія і цяпер з’яўляюцца своеасаблівымі арыенцірамі ў жыцці. А таксама гэта, канечне ж, тыя святары, якіх я сустрэў упершыню і якія пакінулі незабыўны след у сэрцы. Тут не магу не ўспомніць а. Вітольда Жэльветра, адданасць і любоў да свайго служэння якога заўсёды падштурхоўвалі мяне да прыняцця найбольш адважных і адказных рашэнняў.

Думаю, што кожны чалавек, якога давялося сустрэць на сваім шляху, мае велізарнае дачыненне да ўсяго таго, што цяпер адбываецца ў маім жыцці. Таму непамерна ўдзячны ўсім, хто нейкім чынам праявіў зацікаўленасць і быў неабыякавы да маёй будучыні.



**А. Максім Лабкоў CSsR**
нарадзіўся 2 жніўня 1988 года. Паходзіць з парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Парэччы (дэканат Гродна-усход).

“Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае” (Ян 3, 16). Гэты ўрывак лічыцца самым вядомым радком у Біблії, і часам яго называюць “Евангеллем у двух словах”. У ім гаворыцца пра самую галоўную праўду – пра вялікую Божую любоў да чалавека, якая з’яўляецца дарам. Гэтая любоў здзейснілася на крыжы як наша адкупленне. Я адчуваю гэтую вялікую любоў і хачу абвяшчаць яе ў сваім святарскім жыцці, таму змясціў такія словы на прыміцыйным абразку.

Маё бачанне святарства і пастырскага служэння зыходзіць з Канстытуцыі Кангрэгацыі Найсвяцейшага Адкупіцеля, да якой належу. Згодна ёй, айцы рэдэмптарысты, як слугі Евангелля, накіроўваемыя Святым Духам, асаблівым чынам уключаны ў місію Хрыста. Яны павінны быць блізкімі людзям, асабліва бедным і занядбаным, несці ім Добрую Навіну і цэлебраваць для іх святыя сакраманты, асабліва Эўхарыстыю і сакрамант паяднання.

Прымаючы святарскае пасвячэнне, я зрабіў канкрэтныя пастановы, свайго роду заключэнне пагаднення паміж мной і Богам. Яны вельмі асабістыя, звязаны з малітвай, з частейшым знаходжаннем перад Найсвяцейшым Сакраментам, а таксама з большай пашанай да Маці Божай.

Цяпер, калі я ўжо з’яўляюся святаром, хацеў бы выказаць словы падзякі ўсім, хто дапамагаў мне на шляху да алтара. Перш за ўсё, удзячны бацькам за выхаванне і падтрымку. Разам з тым, удзячны многім святарам і манахіням. Іх сведчанне жыцця дапамагло мне рашыцца на святарскі шлях і дайсці да пасвячэння. Сярод духоўных і кансэкраваных асоб хацеў бы асабліва адзначыць свайго роднага брата Дзмітрыя, таксама святара рэдэмптарыста. Ён суправаджае мяне і падтрымлівае ўсімі магчымымі спосабамі. Ведаю, парафіяне з Парэчча, Новай Руды, мае знаёмыя падмацоўваюць мяне малітвай. Вельмі ўдзячны ім усім і наўзамен ахінаю сваёй малітвай.

***Дзякуем Богу за новых святароў! Жадаем ім, каб сваім жыццём пераконвалі людзей у прыгажосці таямніцы Евангелля і былі доказам таго, што ззянне Добрай Навіны мацнейшае за цемру зла. Няхай у жыцці на першым месцы заўсёды будзе Хрыстос, бо толькі з Ім мы здольныя змяніць свет да лепшага.***

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Юбілей святыні ў Вішневе



Кс. бп Аляксандр Кашкевіч асвячае памятны знак з нагоды 200-годдзя кансэкрацыі касцёла ў гонар св. апостала Юды Тадэвуша

**28 чэрвеня вернікі касцёла св. Юды Тадэвуша ў Вішневе (дэканат Смаргонь) адзначалі 200-гадовы юбілей кансэкрацыі парафіяльнай святыні. Яна была ўзведзена стараннямі продкаў як сведчанне веры і любові да Хрыста. І па сёння служыць Божым домам на зямлі.**

Дата юбілею касцёла, што ўзвышаецца на вясковым узгорку, канешне, не пазначана чырвоным у календары, але яна адметная для ўсіх жыхароў мясцовасці.



Пробашч парафіі кс. Антоній Казлоўскі, які служыць у Вішневе ўжо амаль 16 гадоў, гаворыць, што калі разглядаць касцёл выключна як архітэктурную пабудову, то 2 стагоддзі – не так і шмат, паколькі на тэрыторыі дыяцэзіі ёсць больш старажытныя святыні. Але калі браць пад увагу тое, што вішнеўскі касцёл – гэта, найперш, супольнасць, то для парафіі такі юбілей з'яўляецца знамянальным і ўрачыстым.

***"Карані каталіцкай веры на нашай зямлі вельмі глыбокія і трывалыя,*** – распавядае кс. Антоній. – ***Аб гэтым сведчыць той факт, што, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, якія выпалі на долю мясцовых вернікаў і душпастыраў, брамы пякельныя не змаглі перамагчы Касцёл Божы. Нават у змрочныя часы пераследу дзверы святыні не зачыняліся, а людзі баранілі сваю веру і дбалі пра родную парафію. Як і стагоддзі таму, мы цяпер вельмі цешымся, што ў любы дзень і ў любую гадзіну радасці ці смутку можам прыходзіць у касцёл і даваць усе свае справы Пану Богу... На дадзены момант наша парафія налічвае 465 вернікаў. Гэта ахвярныя, працавітыя і сціплыя людзі. Яны разумеюць, што не прыходзіцца спадзявацца на тое, што сусед ці нейкі іншы чалавек паклапоціцца пра касцёл, таму кожны сам стараецца дапамагчы пры рамонце, упрыгожванні святыні, прыкасцёльнай тэрыторыі ці плябаніі".***

Пробашч распавядае, што падрыхтоўка да ўрачыстасці 200-годдзя асвячэння святыні пачалася загадзя. Падчас душпастырскага візіту кожная сям'я атрымала ў падарунак кнігу пра гісторыю касцёла і адмысловы каляндар, у якім месяц чэрвень быў прысвечаны вішнеўскай парафіі. Вялася падрыхтоўка да канфірмацыі, таксама былі запланаваны васьмідзённыя місіі. Але, на вялікі жаль, сучасныя абставіны не дазволілі рэалізаваць усё задуманае – некаторыя планы перанесены на наступны год.

Адсвяткавалі юбілей кансэкрацыі касцёла па скарочаным сцэнарыі. Адбылася ўрачыстая св. Імша з удзелам біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, падчас якой была прэзентавана мастацка-дакументальная аповесць Анатоля Шчучко "Святыняў маўклівыя цені". Таксама іерарх асвяціў усталяваны каля касцёла памятны юбілейны знак – шасцітонны валун з высечаным на ім крыжам.

***"200-гадовы юбілей стаў для нас добрай нагодай, каб узгадаць не толькі гісторыю касцёла, але таксама выказаць удзячнасць і памаліцца ў інтэнцыі парафіян, дабрадзеяў, якія на працягу ўсіх гэтых гадоў унеслі вялікі ўклад у развіццё парафіі, а таксама за святароў, якія абуджалі і ўзмацнялі людскія сэрцы. Веру, што кожнага з іх Бог шчодра ўзнагародзіць, і спадзяюся, што ў вішнеўскай святыні і надалей будуць раздавацца галасы вернікаў, якія спяваюць і моляцца на хвалу Пана",*** – падсумоўвае кс. Антоній.

*Кінга Красіцкая*

**Мураваны касцёл пад тытулам св. апостала Юды Тадэвуша ў Вішневе быў пабудаваны ў 1811 годзе ў стылі класіцызму. У 1820 годзе святыню кансэкраваў кс. бп Тадэвуш Кундзіч, суфраган Троцкі.**

**Касцёл мае статус помніка архітэктуры. Ён адметны тым, што ў цэнтральным алтары знаходзіцца самы вялікі ў Беларусі абраз св. Юзафа з немаўляткам Езусам аўтарства вядомага беларускага мастака Яна Дамеля. У падзямеллях касцёла знаходзіцца крыпта-пахавальня сям'і Сулістроўскіх, фундатараў святыні.**






*1 ліпеня 2020 г. у Базіліцы Агоніі на Аліўнай гары ў Іерусаліме падчас урачыстай літургіі ў гонар Найдаражэйшай Крыві Хрыста кусташ Святой Зямлі а. Франчэска Патан OFM рассыпаў на Скале агоніі пялёсткі чырвоных руж як сімвал крывавага поту Збаўцы*

Да 1969 года 1 ліпеня з'яўлялася асаблівым днём святкавання Найдаражэйшай Крыві Збаўцы. Гэтая ўрачыстасць была ўстаноўлена ў 1849 годзе папам Піем IX. У 1933 годзе папа Пій XI узняў яе да рангу свят першага класа ў памяць 19-ці стагоддзяў, якія мінулі з часу праліцця Найсвяцейшай Крыві за чалавецтва. У 1960 годзе папа Ян XXIII апублікаваў апостальскі ліст "Inde a Primis" аб пашырэнні набажэнства ў гонар Найдаражэйшай Крыві Пана Нашага Езуса Хрыста як неабмежаванай крыніцы духоўнага плёну і леку супраць зла, якое мучыць чалавецтва. Гэта было заахвочваннем вернікаў ушаноўваць Кроў Хрыста на працягу ўсяго ліпеня і разважаць над таямніцай пра Яе неверагоднае багацце і бязмежную каштоўнасць. Менавіта папа Ян XXIII ухваліў літанію да Найдаражэйшай Крыві Пана Езуса.

Гэтае набажэнства мае сваю падставу ў Божым слове. Верагодна, сёмы месяц года быў абраны для гэтай высокай мэты невыпадкова. Лічба 7 сімвалізуе дасканалы Божы твор. У Старым Запавеце святар у храме маліў аб адкупленні сябе, свайго дому і ўсяго люду Ізраіля, 7 разоў акрапляючы алтар крывёю цяляці і казла (параўн. Лев 15, 19). Падобным чынам і Езус Хрыстус, Найвышэйшы Святар, складаючы ахвяру за грахі Адама і ўсяго чалавецтва, 7 разоў праліў сваю Кроў.

Упершыню гэта адбылося на Аліўнай гары, калі "пот Яго быў, быццам кроплі крыві" (Лк 22, 44). У Эдэмскім садзе Адам супрацьстаяў Божай волі. Ён аддаў права панаваць на зямлі сатане і наклікаў праклён. "Праклятая будзе зямля праз цябе, у цяжкай працы будзеш здабываць ежу з яе ва ўсе дні жыцця свайго. Церні і асот яна будзе табе расціць, і ты будзеш есці палявыя травы. У поце аблічча свайго будзеш спажываць хлеб" (Быц 3, 17–19). У Гефсіманскім садзе Божы Сын падпарадкаваўся волі Айца Нябеснага, нягледзячы на бачанне жорсткіх пакут: "Ойча, калі Ты жадаеш, адхілі ад Мяне гэты келіх. Але не Мая воля, а Твая няхай станецца!" (Лк 22, 42) – і сваім крывавым потам адкупіў тое, што страціў Адам.

У чарговы раз наш Збаўца праліў Кроў у доме першасвятара Каяфы, дзе яго штурхалі, зневажалі, білі кулакамі па твары, плявалі на Яго, высмейвалі (параўн. Мк 14, 65), дзе вырывалі Яму бараду (параўн. Іс 50, 14), каб праз гэтую пакуту ачысціць вобраз чалавека ад усяго сораму, прыніжэння і абраз, а таксама вярнуць чалавечую годнасць. Затым Езус праліў шмат Крыві, калі Яго цела бязлітасна бічавалі пры пакутным слупе. "Настолькі знявечаны быў, як ні ў кога, выгляд Ягоны, а постаць Яго не нагадвала чалавечай" (Іс 52, 14), каб кожны з нас мог перажыць фізічнае аздараўленне цела ад усіх хвароб. У чацвёрты раз Кроў пралілася ў прэторыі перад Пілатам, калі салдаты паклалі на галаву Божага Сына церновы вянок, каб мы ацалілі розум. Па-пятае, Кроў з прабітых рук павінна была абмыць і блаславіць працу нашых рук. Ногі, у сваю чаргу, былі прабітыя, каб мы маглі хадзіць у праўдзе і святле Евангелля, а зямля, на якой стаяць нашы ногі, была ачышчана, асвечана і вырвана з моцы д'ябла.

У апошні, сёмы раз, Кроў і вада Збаўцы выліліся без астатку, калі Яго бок прабілі дзідай (параўн. Ян 19, 34), да нараджэння Касцёла, духоўнага адраджэння чалавека і ацалення душы. Так жа, як Ева была створана з боку Адама як яго нявеста, так і Касцёл Хрыстовы паўстаў з адкрытай раны ў боку Езуса. Аднак калі Ева пайшла за хлуснёй нячыстага духа, то разам з Кроўю і вадой Збаўцы Яго нявеста атрымала святога і чыстага Духа, каб магла слухаць праўду, не блукаць у цемры, не паддавацца спакусам і заставацца вернай свайму Жаніху. Кроў Адкупіцеля, асушаная да апошняй кроплі, дае нам таксама неабмежаваныя крыніцы Божай любові і міласэрнасці. Здзейсненае так адкупленне было поўным і дасканалым. Таму на зямлі няма іншай каштоўнасці, большай за Кроў Езуса Хрыста. Яна ачышчае, асвячае, прабачае, апраўдвае, аднаўляе, лечыць раны душы, ламае праклёны і зняволенне, ахоўвае ад няшчасцяў, абараняе ад разбуральных сіл цемры і дае нам уладу над імі, умацоўвае нашу волю, падтрымлівае на жыццёвым шляху, перад Богам, адкрывае Неба, гарантуе Божыя абяцанні блаславення і заўсёды на баку чалавека. Яна заслугоўвае самай высокай пашаны і славы Божага народа.

У 1969 годзе, пасля II Ватыканскага сабору, папа Павел VI унёс змены ў літургічны каляндар. Урачыстасць у гонар Крыві Пана была аб'яднана ў Паўсюдным Касцёле з урачыстасцю Найсвяцейшага Цела Хрыста, званай у народзе Божым Целам. У цяперашні час старая традыцыя захавалася толькі ў санктуарыях Найсвяцейшай Крыві Пана і супольнасцях ксяндзоў місіянераў і сясцёр адаратарак Крыві Хрыста. Тым не менш, кожны вернік, ведаючы яе магутную сілу, можа і павінен працягваць прытрымлівацца заклiку папы Яна XXIII і на працягу ўсяго ліпеня асаблівым чынам адараваць і маліцца да Крыві Адкупіцеля, просячы спыніць жахлівую эпідэмію і блаславіць чалавецтва.

*Людвіга Цыдзік*






### Час па сонцы

***У Салігорску на тэрыторыі касцёла св. Францішка недалёка ад брамы ўсталяваны сонечны гадзіннік.***

*Яго стварыў і праводзіў усе разлікі пробашч парафіі а. Сабеслаў Тамала OFM разам з вернікамі. У цэнтры гадзінніка змешчаны гноман, ад якога падае цень. Гэты цень і паказвае час. Нанесены на гадзінніку лацінскі надпіс гучыць: "Гэты цень праходзіць, як наша жыццё на зямлі". Яшчэ адзін надпіс з'яўляецца дэвізам Ордэна Братоў Меншых: "Супакой і дабро". Таксама на палатне выяўлены каардынаты Салігорска, герб горада і герб ордэна францысканцаў.*

*Як адзначыў пробашч парафіі, у планах стварыць насценны і экватарыяльны гадзіннік.*



### Непажаданы сусед

***У Пакістане загінуў хрысціянін, закатаваны за пакупку дома ў раёне ў Пешавары, населеным мусульманскай большасцю.***

*Мужчына памёр пасля 5-ці аперацый у выніку ран, атрыманых пасля нападу з боку агрэсіўных суседзяў, якія лічаць хрысціян непажаданымі ў займаемым імі раёне горада. Яны палічылі гэта нявартым. Спачатку пагражалі сям'і, загадваючы пакінуць дом цягам сутак. Пасля напалі, выкарыстоўваючы агнястрэльную зброю.*

*Здзейсненая атака з'яўляецца найгоршай формай дыскрымінацыі і праследавання, накіраванай супраць рэлігійных меншасцей у гэтай краіне.*

### Каміна-дэ-Санцьяга запрашае!

***Шлях св. Якуба зноў даступны для пілігрымаў.***

*З 1 ліпеня зноў адкрыта катэдра ў Санцьяга-дэ-Кампастэла на паўночным захадзе Іспаніі. У святыні і ў прытулках па-ранейшаму дзейнічаюць асаблівыя правілы гігіены, а пілігрымы, якія ідуць паломніцкім шляхам, павінны загадзя даведацца пра эпідэміялагічную сітуацыю.*

*Шлях св. Якуба, альбо Каміна-дэ-Санцьяга, з'яўляецца адным з самых важных хрысціянскіх паломніцкіх маршрутаў, побач з дарогамі ў Рым і Іерусалім. Ён вядзе з краін Балтыі праз Польшчу, Германію, Швейцарыю і Францыю да магілы св. апостала Якуба.*




## Наколькі разбуральная духоўная лянота?

*Сярод 7-мі дрэнных звычак (заган), якія заглушаюць і зацямняюць сумленне, а таксама адкрываюць чалавека на зло і робяць яго схільным да граху па звычцы, Катэхізіс Каталіцкага Касцёла называе лянноту. Гэта свайго кшталту трывалыя адносіны да жыцця, нежаданне выконваць фізічныя, разумовыя альбо духоўныя намаганні. Працей кажучы, чалавек, апанаваны лянотай, марнуе, а нават забівае дадзены Богам час.*

*Кароткачасовыя або спантанныя праблемы ў сферы адносін з Богам здараюцца ва ўсіх вернікаў і нагадваюць пра слабасць чалавечай натуры ды патрэбу ў дапамозе Святога Духа. Парой наогул нічога не хочацца. Не адразу гэта лянота. Прычына можа быць у іншым: перагружанасць працай, стомленасць або слабасць. Грэх пачынаецца тады, калі ўнутраныя ці знешнія складанасці адцягваюць чалавека ад дзеяння, якое ён павінен здзейсніць. Тут асабліва важнае слова "павінен". Чым больш важны абавязак, ад якога чалавек ухіляецца, тым большая яго віна. Такім чынам, мы разумеем, што чым больш сур'ёзны абавязак, тым больш цяжкі грэх.*

*Зграшыць можна не толькі думкай, словам ці ўчынкам, але і занядбаннем. Мы памятаем словы Езуса пра Апошні Суд (Мц 25, 31–46), на якім людзі, каторыя стаялі леваруч ад Сына Чалавечага, пачулі абвінавачанне, што не выканалі таго, што павінны былі: не накармілі галодных, не далі піць сасмаглым і г. д. Асаблівым тыпам ляноты з'яўляецца духоўная лянота, якую ў тэалогіі называюць "акедыя". Гэтае грэчаскае слова азначае "бесклапотнасць, расчараванне, млявасць, стомленасць, смутак". Першапачаткова акедыя адносілася да жыцця манахаў і пустэльнікаў як форма спакусы. Асаблівым момантам нападаў злога духа лічыўся поўдзень, калі сонца бязлітасна пякло ў пустыні, што выклікала стомленасць людзей, адданых малітве і аскезе. Менавіта таму акедыю яшчэ называюць дэманам поўдня. Актуальнымі застаюцца тэксты пра акедыю Эвагрыя Пантыйскага, які заўважае, што малітва, каторая дагэтуль прыносіла радасць, раптам траціць свой смак. Тое ж сцвярджае Катэхізіс: "Нуда альбо духоўная лянота вядуць да адкідання радасці, якая паходзіць ад Бога, і да агіды адносна Божага дабра" (ККК 2094).*

*Ляноце спадарожнічае свайго кшталту сум, які вынікае "з няздольнасці паверыць у веліч нашага чалавечага паклікання, якое атрымалі ад Бога" ("Погляд на Хрыста: практыкаванні ў веры, надзеі і любові", Ёзэф Ратцынгер). Будучы папа Бенедыкт XVI называе такую паставу "дзіўнай нянавісцю чалавека да ўласнай велічы" ды раіць імкнуцца да таго, што праўдзівае і вялікае, каб не дапусціць пашырэння ў сабе ўнутранага суму па прычыне пустэчы.*

*А. Аркадзь Куляха OCD*
***Паводле catholicnews.by***




# ЯК ВЫЙСЦІ З ПАРНАГРАФІЧНАЙ ЗАЛЕЖНАСЦІ?



***Кс. Павел Салабуда,***
*псіхолаг*

Большасць з нас ведае, у чым заключаецца праблема парнаграфіі. Вядомы і наступствы ўдзелу ў ёй. Але мала інфармацыі пра тое, як дапамагчы чалавеку, залежнаму ад парнаграфіі.

Спачатку варта вызначыць: прычына праблемы ляжыць на знешнім узроўні (напр. лёгкі доступ да парнаграфічных матэрыялаў, адсутнасць станоўчых мадэляў сексуальных паводзін у акружэнні, адсутнасць сямейных адносін) ці на ўнутраным (напр. парнаграфія становіцца адзіным спосабам стымуляваць выдзяленне такіх гармонаў, як эндарфіны ды адрэналін, і звязаныя з імі рэакцыі). Ад гэтага будуць залежаць рэкамендацыі, якія атрымлівае асоба, што трапіла "ў пастку".

Важна разумець, што кожны з нас можа дапамагчы залежнаму чалавеку хаця б праз зычлівыя зносіны, якія будуць выражацца ў актыўным слуханні, праяўленні эмпатыі. Не трэба асуджаць чалавека, варта паказаць яму на выхад з непрыемнай сітуацыі і пры неабходнасці суправадзіць у прыняцці канкрэтных крокаў да змен.

**Вельмі важна на пачатковым этапе данесці да бліжняга, што Бог любіць залежных людзей і хоча ім дапамагчы, але ненавідзіць грэх, які мучыць чалавека.** Калі залежная асоба прызнае парнаграфію грахом, тады сустрэне Хрыста, які з'яўляецца Збаўцам, і прызнае Яго Панам свайго жыцця.

Пошук выхаду з залежнасці няпросты, і звычайна прапануецца пачаць з **кантролю думак.** Неабходна адкрыць розум на Божыя перамены, вучыцца не дапускаць уяўленні амаральных паводзін. Сексуальнае мысленне павінна датычыць толькі сваёй жонкі (мужа). Галоўнае, зразумець, што выхад з залежнасці – гэта барацьба, але Бог на баку чалавека, каб дапамагчы яму.

Затым неабходна паспрабаваць **пазбягаць спакус, папярэджваць іх.** Найлепшы варыянт – прафілактыка з ранніх гадоў, калі бацькі моляцца за сваіх дзяцей, размаўляюць, даюць адпаведнае палавое выхаванне, усталёўваюць дакладныя межы. Бацькі павінны ведаць, з якімі сябрамі праводзяць вольны час іх дзеці. Важна пазбягаць кантактаў з тымі, хто цікавіцца парнаграфіяй, трымацца на адлегласці ад любых навадных матэрыялаў, ажно да блакіроўкі парнаграфічных сайтаў. Рэкамендуецца выбіраць альтэрнатыўныя формы паводзін і спосабы мыслення, якія могуць дапамагчы чалавеку зняць стрэс.

Вельмі важна быць адкрытым на Бога, верыць у Яго збаўчую сілу. Трэба зразумець, што залежнасць ад парнаграфіі – сур'ёзная праблема, і сам чалавек не зможа перамагчы яе. Каб справіцца, неабходна шукаць дапамогі ў Створцы: запланаваць рэгулярны час на малітву і споведзь, паспрабаваць ацаніць важнасць посту.

Трэба адзначыць, што секс не з'яўляюцца чымсьці дрэнным. Бог стварыў усе часткі нашага цела добрымі. Парнаграфія – гэта сексуальнае злоўжыванне, пра якое ў Бібліі гаворыцца як пра "пралюбадзейства", "распусту", "пажаднасць". Праўда таксама і ў тым, што неабходна "ўстрымлівацца ад усялякага зла" (параўн. 1 Тэс 5, 22).



### З Богам праз штодзённасць

# Распазнаванне: стан суцяшэння

У мінулым артыкуле мы спыніліся на тым, што чалавек, які імкнецца не грашыць і як мага лепш служыць Богу, ідзе "ад добрага да лепшага", атрымліваючы дапамогу добрага духа. Самі правілы, такім чынам, уяўляюць сабой пэўны шлях: мы пачынаем яго праз навяртанне і разам з гэтай ласкай атрымліваем асаблівы стан душы, як цёплы хлеб на доўгую дарогу. Гэты стан св. Ігнацый называе духоўным суцяшэннем. Выкарыстоўваючы слова "суцяшэнне" як своеасаблівы тэрмін, ён зыходзіць са знаёмых усім перажыванняў радасці, блізкасці, узнёслага настрою, лагоднасці. Аднак удакладненне, што суцяшэнне менавіта духоўнае, звяртае ўвагу на паходжанне і мэту гэтых унутраных рухаў.

**Трэцяе правіла:** духоўнае суцяшэнне. Пад суцяшэннем разумею [стан], калі ў душы паўстаюць пэўныя ўнутраныя рухі, праз якія душа загараецца любоўю да свайго Творцы і Пана, у выніку чаго не можа любіць створаныя на зямлі рэчы ніяк інакш, як толькі ў Творцы ўсіх рэчаў. Гэткі ж стан, калі яна пралівае слёзы, якія вядуць да любові Пана з прычыны жалю за свае грахі ці з-за Мукі Хрыста нашага Пана, а таксама з-за іншых рэчаў, непасрэдна скіраваных на служэнне Яму і праслаўленне. Урэшце, я называю суцяшэннем кожнае ўзрастанне надзеі, веры і любові і кожную ўнутраную радасць, што клічуць і вабяць да нябесных рэчаў і да дабра [ды збаўлення] душы, суцішваючы і супакойваючы яе ў Творцы і Пану.

Відавочна, што св. Ігнацый вырашыў даць не сціслую вычарпальную дэфініцыю, а серыю прыкладаў: ён апісвае разнастайныя ўнутраныя перажыванні чалавека, якія ілюструюць сутнасць суцяшэння. Хоць яны ўспрымаюцца намі як псіхічная рэчаіснасць, тым не менш, інтэрпрэтуюцца праз прызму веры і Божай любові. Калі Ігнацый у аўтабіяграфіі згадвае пра вялікае суцяшэнне, якое ён атрымаў, гледзячы на зорнае неба, то кажа таксама пра яўна духоўны досвед: тады адчуў у сабе моцнае жаданне служыць Пану. Такі ўнутраны рух адрозніваецца ад прафесійнага захаплення і цікаўнасці астранома. "Суцяшэнне ў распазнаванні духаў – гэта заўсёды спантаннае ўнутранае перажыванне чалавека, якое духоўна інтэрпрэтуецца і мае духоўныя наступствы", – піша Джордж А. Ашэнбрэнэр SJ, знакаміты аўтар кніг і духоўны кіраўнік.

Духоўнае суцяшэнне не заўсёды азначае шчасце, а духоўная пакінутасць (супрацьлеглы стан, аб якім будзе гаворка ў наступным артыкуле) не заўсёды азначае смутак. Часам перажыванне смутку, адзіноты ці неспакою – гэта момант вяртання да блізкасці з Богам і іншымі людзьмі. Шчыры жаль за шкоду, учыненую бліжняму, у канчатковым выніку імкнецца да радасці, якая прыходзіць з прымірэннем. Задаволенасць і шчасце могуць быць ілюзіяй і нават формай самападману, калі гэтыя пачуцці прыкрываюць праблемы, якія патрабуюць вырашэння: наступствы мы проста не хочам заўважаць. Лёгка, напрыклад, знясіліць сябе празмернай працай альбо бяздумнымі забавамі ці пагаджацца на захаванне спакою любым коштам, каб толькі пазбегнуць складанай размовы з чалавекам, якога любіш. Зноў ключавое пытанне: адкуль гэты рух і куды ён вядзе?

Папа Францішак піша: "Шчасце з'яўляецца парадоксам і прапануе нам найлепшы вопыт тады, калі прымаем тую загадкавую логіку, якая не паходзіць ад гэтага свету. Як гаварыў пра крыж св. Бонавентура, «гэта – наша логіка»" (Gaudete et exsultate, 174).

Усё ж, што тады, на думку Ігнацыя, суцяшае нас па-сапраўднаму? Возьмем, напрыклад, "унутраныя рухі, праз якія ў душы загараецца любоў да Бога". Выкарыстаны тут вобраз агню паказвае, што працягласць і інтэнсіўнасць стану суцяшэння могуць быць рознымі: момант ці некалькі месяцаў, цалкавітая ахопленасць полымем любові да Бога ці далікатнае трапяткое пачуццё, падобна агеньчыку свечкі – кожнай душы ў адпаведны час спасылаецца штосьці ўнікальнае. Бог дасканала ведае, як даваць добрыя дары сваім дзецям (параўн. Лк 11, 13).

Любоў чыніць нас здольнымі ставіць Бога на першае месца і толькі ў Ім любіць усё створанае: рэчы, месцы, людзей. Можна сказаць, любоў да ўсяго, што дорага нам на зямлі, прыходзіць у гармонію з гэтай "асноўнай" любоўю, якая жывым агнём пасяляецца ў сэрцы.

Далей Ігнацый адзначае, што суцяшэнне ахоплівае чалавека цалкам, таму тое, што перажываецца ў сферы духа, атрымлівае фізічнае праяўленне ў слязах, "якія вядуць да любові Пана". Слёзы, такім чынам, становяцца прыступкай да яшчэ большай любові, хоць могуць з'явіцца вынікам складанага духоўнага досведу: разважанняў Мукі Хрыста, жалю за свае грахі ў святле Божай міласэрнасці і любові. Ігнацый пакідае спіс адкрытым: "а таксама з-за іншых рэчаў, непасрэдна скіраваных на служэнне Яму і праслаўленне". Таму тут знойдзецца месца і для слёз захаплення добрымі рэчамі, і для слёз спачування няшчасцю бліжніх.

Наступным акрэсленнем духоўнага суцяшэння становіцца "кожнае ўзрастанне" тэалагічных цнотаў: веры, надзеі і любові. Яны прысутныя ў душы дзякуючы ласцы хросту, але менавіта асабістае адчуванне, што гэтая духоўная аснова ўмацоўваецца, прыносіць чалавеку глыбокую і сапраўдную радасць. Св. Ігнацый раіць усведамляць як мага часцей праявы духоўных перажыванняў, якія кіруюць нашы сэрцы ўгору, "да нябесных рэчаў", каб заўважыць і прыняць іх як каштоўныя дары, дазволіць душы наталяцца імі, знаходзіць супакаенне ў сваім Творцы і Пану.

Так, разважаючы змест трэцяга правіла, мы крочым па святой зямлі: мы знаходзімся ў Божай прысутнасці. Няхай жа шматграннасць і разнастайнасць асабістага досведу гэтай прысутнасці адкрыецца для нас ва ўсім сваім багацці і моцы сярод звычайнасці штодзённага жыцця.

*Тэрэса Клімовіч*

НАВІНЫ



## ПАРАФІЯЛЬНЫ АДПУСТ У ТРАКЕЛЯХ

У дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь) адбылася штогадовая адпустовая ўрачыстасць Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі. Менавіта ў гэты дзень з даўніх часоў у мястэчка прыбываюць вернікі з блізкіх і далёкіх ваколіц, каб перад цудадзейным абразом прадставіць Пану свае просьбы і падзякаваць Яму за незлічоныя ласкі, атрыманыя праз заступніцтва Маці Божай.

Нягледзячы на эпідэміялагічную сітуацыю ў свеце, паломнікаў на парафіяльным свяце сабралася нямала. Праўда, у гэтым годзе не было арганізаваных пешых груп, шматлікіх гасцей з дыяцэзіі, краіны і замежжа. Вернікі прыбывалі ў Тракелі сем'ямі, несучы на руках дзяцей. Некаторыя з бліжэйшага наваколля прыйшлі ў індывідуальнай пешай пілігрымцы, каб пераадолець хаця б невялікі адрэзак шляху, але, як адзначылі самі, "галоўнае – інтэнцыя і вялікае жаданне быць побач з Маці". Між іншым, на фэст прыбылі веласіпедныя пілігрымкі з іўеўскай парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла і з мінскай парафіі св. Яна Евангеліста і св. Максімільяна Марыі Кольбэ.

Урачыстасць у парафіі прайшла сціпла, але разам з тым вельмі прыгожа. У санктуарыі панаваў сапраўды малітоўны настрой. Адпустовую св. Імшу ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Прысутнічалі дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі і святары, якія прыбылі ў санктуарый разам са сваімі парафіянамі.

Ёсць спадзяванні на тое, што час эпідэміі хутка міне, і яшчэ ў гэтым годзе, нават у канцы лета, у санктуарыі адбудзецца дыяцэзіяльная ўрачыстасць, якая зможа сабраць на малітве яшчэ большую колькасць вернікаў.



АДНЫМ РАДКОМ

• Навапрэзбітэры цэлебравалі прыміцыйныя св. Імшы ў родных парафіях у Лідзе, Мінойтах (дэканат Ліда), Парэччы (дэканат Гродна-усход) і Слоніме. • Пахавальная св. Імша кс. прэлата Юзафа Трубовіча адбылася ў гродзенскім касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. • Акцыю "Новае жыццё ў абмен на накрыўкі" правялі ў гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай. • Члены футбольнага клуба "Неман" у межах знаёмства з гістарычнымі месцамі наведалі катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## Каляндар падзей

***15 ліпеня***
*Успамін св. Бонавентуры, біскупа і доктара Касцёла.*
***16 ліпеня***
*Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармэль.*
***22 ліпеня***
*Свята св. Марыі Магдалены.*
***23 ліпеня***
*Свята св. Брыгіты Шведскай, заступніцы Еўропы.*
***25 ліпеня***
*Свята св. апостала Якуба.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Ліпень***
*Аб развіцці пілігрымак і дыяцэзіяльных санктуарыяў. У інтэнцыі кусташаў санктуарыяў, арганізатараў пілігрымак і пілігрымаў.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*
***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*
***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## Інфармацыя для абітурыентаў!

**Гродзенскі тэалагічны каледж імя св. Казіміра аб'яўляе набор студэнтаў на 2020/2021 навучальны год.**

Адной з галоўных мэт навучальнай установы з'яўляецца ўмацаванне веры, паглыбленне рэлігійных ведаў і падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці. Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады (з верасня па чэрвень).
Форма навучання – завочная. Заняткі праводзяцца ў 2-ую і 4-ую суботу і нядзелю месяца.
Пасля заканчэння каледжа выпускнікі могуць працягваць навучанне ў каталіцкіх ВНУ, атрымаць ступень магістра або доктара.

**Дакументы, неабходныя для паступлення:**
- заява (напісаная ўласнаручна);
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта (с. 31–33);
- копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі;
- 3 фотаздымкі (3х4);
- медыцынская даведка;
- анкета (запаўняецца пры падачы дакументаў).

Перад падачай дакументаў абавязковы папярэдні запіс, які адбываецца па тэлефонах (8 029) 887-71-05, (8 0152) 75-33-08 або праз e-mail: kaledz.tealagiczny@gmail.com. Дакументы прымаюцца асабіста з 1 чэрвеня да 21 жніўня кожны аўторак з 10.00 да 12.00 у біскупскай курыі (г. Гродна, вул. К. Маркса, 4).

**Уступныя іспыты:**
- экзамен з катэхізіса і агульных ведаў пра Каталіцкі Касцёл; - кваліфікацыйная размова.

***Уступны іспыт адбудзецца 25 жніўня ў 11.00.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 ліпеня 1942 г.** – а. Дыянізій Клімчак OFMConv., *проб. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Казімір Шыпіла, *вік. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Юстын Скакоўскі, *капелан сясцёр назарэтанак, Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. д-р Юзаф Казлоўскі, *проб. Ваўкавыск;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. кан. Марэк Бурак, *проб. Мсцібава;*
**16 ліпеня 1973 г.** – кс. Адам Вайцяхоўскі, *проб. Гудагай;*
**16 ліпеня 2006 г.** – бр. Бярнард Бяленік OFMConv., *Гальшаны–Гродна;*
**18 ліпеня 1946 г.** – кс. кан. д-р Альбін Ярашэвіч, *проб. Гродна;*
**23 ліпеня 1955 г.** – кс. Юзаф Кавальчук, *проб. Індура;*
**24 ліпеня 1963 г.** – кс. Францішак Пятровіч, *проб. Нястанішкі;*
**26 ліпеня 1993 г.** – кс. Станіслаў Шока SDB, *душп. Ліда;*
**26 ліпеня 2009 г.** – кс. прэлат Мар'ян Маргуж, *праф. Гродзенскай ВДС.*

# ДЫЯЦЭЗІЯ РАЗВІТАЛАСЯ З НАЙСТАРЭЙШЫМ СВЯТАРОМ У БЕЛАРУСІ

***Смерць чалавека заўсёды з'яўляецца вялікім ударам для блізкага акружэння. Калі памірае святар, у жалобу пагружаецца ўся парафіяльная сям'я, для якой ён быў сапраўдным бацькам.***

26 чэрвеня адышоў у вечнасць кс. прэлат Юзаф Трубовіч. Шлях яго жыцця доўжыўся амаль 95 гадоў, з якіх 64 ён правёў у святарстве. За гэты час кс. Юзаф стаў духоўным правадніком для шматлікіх вернікаў Гродна. Яго ведалі многія пакаленні людзей: адных хрысціў, іншым дапамагаў пры заключэнні сакрамэнтальнага сужэнскага саюзу, а яшчэ для кагосьці быў пастаянным спаведнікам...

Як адзначыў падчас пахавальнай св. Імшы біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, сэрца кс. Юзафа было падобнае на Сэрца Езуса – заўсёды адкрытае для патрэб іншага чалавека. "Нягледзячы на пажылы ўзрост, святар стараўся знайсці час для кожнага. Заўсёды суперажываў чалавеку, які прыйшоў да яго за добрым словам і парадай", – заўважыў іерарх.

У кс. Юзафа быў асаблівы дар прыцягваць людзей да сябе. Ён быў здольны захапіць Богам і прыгажосцю Касцёла. Святара любілі дзеці і моладзь, а асабліва вернікі ў сталым узросце.

Кс. Юзаф лёгка знаходзіў кантакт з хлопцамі, якія прыслужвалі пры алтары. Тыя намагаліся пераймаць святара, гледзячы на яго сціплае і звычайнае жыццё. Таму не дзіўна, што больш за 10 былых яго міністрантаў прынялі святарскія пасвячэнні і сёння служаць на ніве Пана ў Беларусі, а таксама ў Латвіі, дзе ён жыў некаторы час.

Ксёндз прэлат сапраўды быў сціплым чалавекам. Жыў у вельмі простых умовах. Не акружаў сябе багаццем ці якім-небудзь асаблівым камфортам. Меў толькі тое, што было неабходна для нармальнага існавання. А астатняе, як сам часта паўтараў, "не абавязкова для збаўлення".

Такім жа, якім было ўсё жыццё святара – спакойным і поўнасцю адданым Пану, была і яго смерць. Моцна трымаючы ў руках грамнічную свечку, кс. Юзаф зірнуў на вялікі крыж, які вісеў у спальні, заплюшчыў вочы і спакойна адышоў да Госпада... Пахаваны побач з гродзенскім касцёлам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, дзе служыў на працягу апошніх 20-ці гадоў.

Нам, сучаснікам, святар пакінуў прыгожае сведчанне таго, што заўсёды варта імкнуцца да дасканаласці, што варта жыць з Богам. Толькі такое жыццё будзе мець сэнс і значэнне.

У сваім завяшчанні, якое прачыталі пасля смерці, кс. Юзаф напісаў простыя словы: "Дзякую усім, каго я сустрэў у сваім жыцці, і прашу прабачэння ва ўсіх, перад кім вінаваты. Ад усяго сэрца прашу аб малітве за маю душу". Няхай жа выразам нашай удзячнасці памерламу святару будзе адданая малітва, каб Гасподзь у сваёй міласці паглядзеў на яго і сказаў: "Слуга добры і верны, увайдзі ў радасць гаспадара твайго!".

*Кс. Юрый Марціновіч*



*Кс. прэлат Юзаф Трубовіч нарадзіўся 6 студзеня 1926 года на Віцебшчыне ў вёсцы Невярышкі ў сям'і Баляслава і Генавэфы Трубовічаў. Бацька быў шаўцом, маці – хатняй гаспадыняй.*

*Скончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Рызе (Латвія). Там жа атрымаў прэзбітэрскае пасвячэнне з рук біскупа Казіміра Дульбінскага. Значная падзея адбылася 30 верасня 1956 года.*

*Пасля пасвячэння 20 гадоў служыў у Латвіі: спачатку вікарыем у Ліепаі, потым пробашчам у Курмене, а таксама ў Канкалі і Эрбергу.*

*У Беларусь прыехаў у 1977 годзе. Служыў у гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай. У 1988–1992 гадах быў прэфектам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Рызе. Затым вярнуўся ў Гродна і наступныя 7 гадоў служыў пробашчам катэдральнай парафіі св. Францішка Ксаверыя.*

*У 1999 годзе быў скіраваны ў парафію ў Каменцы (дэканат Шчучын), дзе непрацяглы час спаўняў абавязкі пробашча. 23 снежня 1999 года прыбыў у гродзенскую парафію Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, дзе заставаўся рэзідэнтам да самай смерці.*

# Маці Божая, сустракай!

● працяг са с. 1



**С. Францішка Фядотава CSSH**



**Кс. Андрэй Белаблоцкі**



*Я належу да той катэгорыі людзей, для якіх год без пілігрымкі можна лічыць пражытым дарма. Як толькі стала вядома, што з-за каранавіруса пілігрымкі адмяняюцца, я вельмі засмуцілася. Але потым с. Марлена прапанавала паехаць да Маці Божай на веласіпедах. Шчыра кажучы, спачатку я вагалася, бо веласіпед – абсалютна не мой сродак перамяшчэння, тым больш, што я зусім нядаўна навучылася на ім ездзіць. Але жаданне пілігрымаваць было настолькі моцным, што перамагло мой страх, і я пагадзілася. Да нас далучылася таксама с. Вікторыя і яшчэ 2 свецкія асобы.*

*Асаблівасць гэтай пілігрымкі была ў тым, што калі раней ты ішоў, маючы выразную праграму, дзе ўсё распісана да дробязей: малітвы, песні, абеды, начлегі, – то цяпер самім трэба было паклапаціцца аб маршруце і плане дня.*

*Паколькі мы ехалі веласіпедамі, кожны сам для сябе вырашаў, што рабіць у дарозе: слухаць песні, канферэнцыі, маліцца. Я, напрыклад, адгаворвала Ружанец. Гэта былі неверагодныя адчуванні: навокал бязмежнае поле, высокае неба, а ты едзеш, перабіраеш пацеркі і ўваходзіш у своеасаблівы стан медытацыі.*

*Калі мы дабраліся да санктуарыя, мяне перапаўнялі эмоцыі. Гэта радасць ад таго, што ты, нягледзячы на сваю слабасць, змог і дасягнуў мэты, а таксама шчасце ад сустрэчы з Маці Божай. Калі заходзіш з пешай пілігрымкай у санктуарый, на тэрыторыі якога збіраюцца сотні людзей, крыху складана засяродзіцца, пражыць на ўсе сто працэнтаў момант яднання з Марыяй. У гэтым годзе, можна сказаць, я мела ўнікальную магчымасць атрымаць асалоду ад індывідуальнай малітвы ля цудатворнага абраза, нагаварыцца ўдосталь з Маці Божай, расказаць Ёй пра ўсё, што маю на душы.*



*Апошнія некалькі гадоў у мяне не было магчымасці прыняць удзел у пілігрымцы, каб прайсці яе ад самага пачатку і да канца. А такое жаданне было ў сэрцы. Таму я вырашыў пайсці сёлета, тым больш, што з’явіўся вольны час. З-за складанай эпідэміялагічнай сітуацыі не змог узяць з сабой іншых жадаючых, таму адправіўся адзін.*

*Падчас дарогі я разважаў над Евангеллем дня, думаў пра жыццё, маліўся Ружанцам, Вяночкам да Божай міласэрнасці. Калі з-за мазалёў і расцяжэнняў было цяжка ісці і мозг канцэнтраваўся на болю, то, каб пераключыць сваю ўвагу, слухаў рэлігійныя песні і канферэнцыі.*

*Я ішоў па праезжай частцы, таму людзі выглядалі з аўтамабіляў са здзіўленнем. Некаторыя прытармажвалі, а адзін мужчына, які рухаўся па сустрэчнай паласе, развярнуўся, пад’ехаў і папрасіў благаславіць і памаліцца за яго. Сустракаліся людзі, якія ішлі альбо ехалі на веласіпедзе па сваіх справах, але ўбачыўшы мяне, выяўлялі жаданне прайсці разам некаторы адрэзак. Мы размаўлялі, разважалі пра Бога, пра жыццё. Гэта была свайго роду евангелізацыя ў дарозе.*

*Я ўзяў у пілігрымку толькі асабістыя рэчы. Ніякай ежы, нават запасу пітва не браў. Заходзіў па дарозе да людзей, прасіў дазволу набраць вады з калодзежа. Некаторыя давалі яшчэ і бутэрброд у дарогу. Нехта частаваў марожаным. Адна бабуля нават абедам пакарміла. Я ішоў з поўным супакоем, ведаючы, што Бог мяне вядзе і не пакіне.*

*Звычайна кожная пілігрымка мае свой дэвіз. Мая прайшла са словамі “Перамен патрабуюць нашы сэрцы”. Я часам уключаў сабе песню пад такой назвай, каб крокі набралі рытм. А потым заўважыў, што гэтая фраза сапраўды мне блізкая: перамен патрабуе маё сэрца, а таксама сэрцы тых людзей, якіх сустракаў на сваім шляху.*

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

## Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**
з нагоды 35-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, шчодрых ласкаў Езуса Хрыста, мноства дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень святарскай паслугі. Шчасці Божа!
*З удзячнасцю парафіяне з Дзятлава*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Юзафу Ганчыцу**
з нагоды 10-ай гадавіны кансэкрацыі касцёла, 25-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і 60-годдзя з дня нараджэння жадаем Божай міласці, духоўнай радасці, мудрасці, нястомных духоўных і цялесных сіл, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай усемагутны Бог памножыць гады Вашай паслугі ў нашай парафіі і ўзнагародзіць за наш храм, за духоўнае развіццё вернікаў, за кожнае намаганне, шчырасць у малітве і працы, за клопат пра кожнага з нас.
*З малітвай вернікі з парафіі Святой Сям’і ў Лідзе*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Багуславу Вуйтовічу**
з нагоды юбілею 60-годдзя з дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці ад здзяйснення святарскай паслугі, каб усемагутны Бог дапамагаў у рэалізацыі планаў, а Маці Божая апекавалася на шляху здзяйснення Вашых мар і намераў.
*Парафіяне з Гальшанаў*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**
з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем здароўя, шчасця, нязгаснара запалу веры, плённай паслугі на ніве Пана, любові і пашаны ад кожнага з нас. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух дадаюць Вам сіл і натхнення, а Маці Божая штодзённа адорвае дабрынёй свайго сэрца. Жадаем рэалізацыі ўсіх планаў і зычлівых людзі на святарскім шляху. Дзякуем за ахвярную паслугу і клопат пра нас, а таксама за тое, што лечыце нашы душы. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах.
*Ружанцовыя колы і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Анатолю Захарэўскаму**
з нагоды імянін складаем найлепшыя пажаданні. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены супакоем, вочыззяюць ад шчасця, а з твару не сыходзіць усмешка. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады ў пачэснай службе Богу і людзям.
*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Міхалішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**
з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці, нястомнага запалу ў святарскай паслузе. Нізкі Вам паклон за любоў і клопат пра парафіян і святыню, за ўвагу да кожнага, шчырасць, дабрыню і адкрытасць. Няхай міласэрны Бог блаславіць Вашу маму за такога шчырага сына святара.
*Вернікі з в. Малінавая*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Внароўскаму**
з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, аптымізму, надзеі, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама шчодрых Божых ласкаў. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю і супакоем, а паслуга на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.
*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Адэльска*

**Паважанаму Ксяндзу Генадзю Кухарэвічу**
з нагоды 45-годдзя з дня нараджэння жадаем Божага блаславення, нястомнай дапамогі Найсвяцейшай Маці і апекі св. Міхала Арханёла. Шчыра дзякуем Вам за плённую душпастырскую паслугу ў нашай парафіі.
*Вернікі з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Ізабеліне*

**Паважанай Сястры Ганне**
з нагоды імянін жадаем апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, нязгаснага запалу ў нясенні паслугі і шчодрага плёну на Божай ніве.
*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з Трабаў*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вінцэнту Лісоўскаму**
з нагоды імянін перасылаем шчырыя віншаванні. Няхай усё Ваша жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, Збаўца вядзе Вас па цудоўнай дарозе святарства, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Жадаем моцнага здароўя, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і благаслаўлення ад Пана Езуса.
*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ліды*

**Паважанай Сястры Марыі Стасевіч**
з нагоды імянін перасылаю сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Вас блаславіць, адорвае здароўем, поспехам і сілай, Маці Божая няхай пануе ў сэрцы, а Пан Езус крочыць з Вамі выбраным шляхам і дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця.
*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Барташэвічу**
з нагоды дня нараджэння складаем найлепшыя пажаданні: Божага блаславення, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, а таксама моцнага здароўя і душпастырскай мудрасці, шмат сіл для пераадольвання цяжкасцей, моцнай веры, нязгаснай надзеі і сапраўднай Божай любові. Няхай Езус Хрыстус асвячае сваёй ласкай Ваш жыццёвы шлях. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, цярплівасць да нас, а таксама за Божае слова, якім напаўняеце нашы душы. Заўсёды памятаем пра Вас у малітве.
*Апостальства “Маргарытка” і парафіяне з касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Жырмунах*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2947; тыраж 4046; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная